Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана нумару 15 гр.

**№ 1. Вільня 25 Сакавіка 1934 г. Год 1.**



Рэдакцыя і анміністрацыя
WILNO,
ul. S.S. Miłosierdzia Nr. 18 m. 5.

Прэнумэрата: у год 3 зл.
пол года 1,50 зл.

ДВУТЫДНЕВІК ГРАМАДЗКАГА ГУМАРУ і САТЫРЫ.

## Ад рэдакцыі.

Дарагія чытачы! Не аднаму з вас трапілася адчуць джала асвы. Непрыемная рэч. Але НАШАЙ „Асвы" ня ўсе павінны баяцца. Яна мае пару зоркіх вочаў і патрапіць адрозьніць прыяцеля ад ворага, свайго ад чужака. Сваімі наша „Асва" лічыць усіх тых, хто мазалістай працай за варштатам і плугам здабывае сабе магчымасьць існаваньня. Чужакамі — усіх тых, хто з крыві і поту працоўных жыве, кішані сабе набівае. Ці ты беларус ці паляк, ці ты жыд ці ліцьвін, калі ты крывасмакт—нам ўсё роўна чужак.

„Асва" для ворагаў будзе няшчаднай. Не схавацца панам Луцкевічам ды Марціньчыкам, Шырмам ды Астроўскім, Клімовічам ды Станкевічам перад джалам „Асвы". Як-бы шчыльна не зачынялі вакон і дзьвярэй, якія-б маскі не накладалі пры абрабленьні сваіх „дабрадзействаў" для „беларускага народу" (якія гэтаму народу бакамі вылазяць), „Асва" знойдзе шлях да іх сапраўднага, непрыкрытага маскай аблічча і тады... сьцеражэцеся! „Асва" і сваіх шкадаваць ня будзе, калі пойдуць па шляху ворага.

Коратка кажучы: гумар і сатыра могуць і павінны служыць аружжам у руках працоўных. Гэтай мэце будзе служыць „Асва".

## Б. Н. Р.

(Прысьвячаю 16 ці ўгодкам Б. Н. Р. і К о).

Б.Н Р.—як сімвал ўлады
Цешыць душы ўсіх паноў.
Беларускай панскай РАДЫ,
Што смактала з люду кроў.

Б Н.Раў—сьцяг, пагоня
Чырвань—бела зьяе.
Селянін, рабочы сяньня
Свой сьцяг паднімае.

Б.Н.Р.—не сьвята працы...
Гэта пір багатых!
Гэта воля, хто ў палацы..
Для працоўных краты.

Б.Н.Р.—ўзрос над касьцямі
І пад людзкі плач і стогн,
Генеральскімі штыкамі..
Нёс кайданаў гулкі звон.

Не зацьміць ганебнай плямы,
Дзікім лямэнтам пра зьдзек!
Пац нацiскам трэснуць тамы,
Устае працоўны чалавек!

## ЭПАПЭЯ ПРА Б. Н. Р.




1917 г. 1.

Эпапэю мы пачалі
Як Луцкевічы стаялі
Прад панамі, ды другімі,
Генераламі таўстымі.




1917 г. 2.

Алё жыцьцё шаганула,
Шаганула дый трахнула.
Усталі босыя, голодныя
У дні асеньнія, халодныя.

2

Узварухнуўся ўражы стан,
Лямэнтуюць — дайце нам
Незалежнасьць, мы „народ“!
І рыхтуюць свой паход.



1918 г.

3.

Разам з сотнямі Вільгельма
Пруць разогнаныя шэльмы.
У Менску гоман, ў Менску шмэр
Абвясьцілі незалежнасьць — Б. Н. Р.

За высокі мур з цэглы складзены,
За жалезныя перакладзены, —
Павялі сыноў — льецца ціхі стогн,
Льецца ціхі стогн з па-за крат вакон.




1921 г.

5.

Паны мяркуюць спраўна ролі —
Лаяцца, крычаць да болі
— Ігнатоўскі — камуністы!..
— Пан Луцкевіч — ты фашысты!..

„Ганіць трэба, гэта мус . .
Кожны з нас хоць беларус
Пойдзем рознымі шляхамі
Потым станем ўсе панамі“.



1920 г.

4

Дварчанін Рак, Мятла;
Як храбрыя салдаты,
Праіграўшы бой да тла,
Каб не зазнаць бяды
Намазаў салам пяты
Уцякалі, хто куды . .

Год двадцаты быў багаты:
Разарвалі круг стракаты
Край ачысьцілі ад швалі
Ды да працы дружна сталі




1921—27 г.

6

Іх ня выкінеш ня можна
Не заўважыш, асьцярожна...
Ахварбоўку ўзяўшы нову
Пруць ў дзяржаўну установу.

Наркампросам Ігнатоўскі,
У Інбелкульцe пан Ластоўскі,
Шлюць ў Нарком зямлі Прышчэпу
Садзяць хутары, як рэпу.



1924—27г. 7.

Рух узняўся на Заходзе,
Сунуць стройныя калёны,
Зьмена робіцца ў народзе.
Страх бярэ „бацькоў“ шалёны.

Лезуць з лева лезуць з права
Забягаюць на пярод.
Хоць ня рады, крычуць — брава!..
Устрымаць хочуць веснаход.



1928 г. 8.

Восем год на „мірным“ фронце
Бой вялі за перарод,
Аб мільёнаў сэрца — сонцы
У прах разбіўся здрады свод.
Не галодных, не абдзертых
Рушыла працоўных раць,
На гіганты абапертых,
Сталі прошласьць з корнем рваць.
Равуць хвалі і рагочуць,
Берагі парваці хочуць
Не ўстрымалі . памагалі...
Дарма высілкі прапалі.




1927—30 г. 9.

Зноў разбіліс на кірункі,
Атрымаўшы падарункі ..
У чырвань ўбраліся і маскі ..
Працавалі без апаскі.

Збан да часу воду носіць.
Сёньня ведама—галосяць
З усіх кірункаў, старых сфэр
Каму любы Б. Н. Р.

Б. Н. Р. — сінонім зьдзеку
І пакуты для людзей,
Каб прастому чалавеку
Здушыць вольны ўздым грудзей.




1933—34 г. 10.

Ад веку мы спалі. .
Устаць нам не давалі,
Казалі: ня маем паноў!
Цяпер мы паўсталі
Жысьць нову пазналі
Знайшлі у сябе багачоў.
Знайшлі і сказалі ..
Цярпець больш ня будзем!
Хай пеніцца мора ў грудзёх!
Кайданы парвалі...
І волю здабудзем
У астатніх рашучых баёх!

## 3 нагоды падзеяў у Аўстрыі.




Пасьля крывава-жорсткага здушэньня ўзброенага паўстаньня аўстрыйскіх рабочых „хрысьціянскім“ прэм'ерам Дольфусам, Отто Бляўэр—найвыдатнейшы правадыр аўстрыйскіх сацыял-дэмакратаў заявіў, што ён і другія правадыры соцыял-дэмакратаў, хацелі абмінуць барацьбу і ўвесь час стараліся знайсьці шлях да паразуменьня з Дольфусам—нават праз біскупаў. Не мая віна кажа, што не ўдалося.

## Атмосфэрныя варункі.

„Кур'ер Віленскі“ кажа, што галоўнай прычынай голаду сярод соцен тысяч сялян Віленшчыны зьяўляецца... непамысныя атмосфэрныя варункі.

Дзіўная рэч: у маёнтках графа Тышкевіча, Ванькові́ча і іншых адныя „атмасфэрныя варункі“, а ў суседніх з німі вёсках—другія.

Б.Н Кат—Б Н.Р. пуцяводная зорка..

„АСВА“—Яе сьвяцілы гэта Луцкевіч, Астроўскі, Ад. Станкевіч, Я. Станкевіч, Багдановіч, Балаховіч, Уласаў ды іншыя.

„Беларусь Працы“ — Наш ідэал — Беларусь беларусу!?

Гітлер. — Нямеччына — для немцаў!

Працоўны: — І тыя і другія б'юцца за нашую скуру.

Гутарка „Бел. працы“ з карэспандэнтамі.

1.

— Кажаце, што вы сьмелы, а чаму баіцёся даць у рэдакцыю сваё праўдзівае прозвішча?

— Каб я ня ведаў хто вы, дык можа і даўбы, а ведаючы лезьці ў пятлю няма дурных...

2.

— Умець пісаць і мець „алей“ у галаве гэта розныя рэчы.

— Праўду кажаце — з „алеем“ у галаве газэту не выдасі, як ваша.

## Што такое Б.Н.Р.?

У 1917 г. ў Менску на кангрэсе, скліканым Ластоўскім, Луцкевічам і інш. была выбрана Рада. У пачатковы склад Рады Выканаўчай Б.Н Р. уваходзілі, паміж іншым, Рак-Міхайлоўскі, Прыстар і Варонко. Гэная Рада з бегам падзеяў, была змушана ўцякаць за мяжу.

У 1918 г нямецкае войска заняло Менск. Разам з немцамі вярнулася і „РАДА“—Луцкевічаў. Тады нямецкія, беларускія і іншыя паны душылі беларускіх працоўных, як і польскіх, яўрэйскіх ды яшчэ многа другіх. На небасхіле сталі шыбеніцы. Пад іх скрып, хруст касьцей, плач жонак і малых дзяцей, пад марш вільгельмаўскіх салдат 25 сакавіка 1918 г. была абвешчана Ластоўскім, Луцкевічам і кс. Станкевічам „Незалежная“ Беларуская Народная Рэспубліка. Скарочана называецца — Б. Н. Р.

Галоўнай мэтай Б Н Р. — было спыніць імкненьні працоўных Беларусі да ўлады. Аднак гэта ім не ўдалося. Але да сёньня 25 сакавіка зьяўляецца праявай іх лятуценьняў вярнуць 1918 год. У нас на Заходняй Беларусі выкарыстоўваюць сьвяткаваньне гадавіны Б Н Р. для распальваньня беларускага нацыяналізму і шавінізму.

Вось што значыць іх – Б Н Р.

3.

— Што трэба мець, каб папасьці ў дом вар'ятаў?

— На мой пагляд хопіць адзінадцаці пунктаў вашай „пяцігодкі“, каб адтуль ня выпусьцілі,

Луцкевіч — Сьвяткуем!

Станкевіч — Сьвяткуем!

Працоўны — Якое сьвята цешыць вас паны?

— Луцк. і Станк. разам — 16 ыя ўгодкі Б Н Р.

Працоўны — Вон што лучыць Б.Б.В.Р.—нам яно не па нутру.

„АСВА“. — Я прачытаў адозву Бел.Нац.Ката, каб успомніць акт 25 — III — 1918 г. і таму прысьвячаю яму месца праз увесь свой першы нумар.

## Заклік да чытачоў.

„Асва“ можа ўтрымацца толькі пры падтрыманьні шырокіх працоўных гушчаў гораду і вёскі. Сабірайце і прысылайце ахвяры, выпісвайце „Асву“ і прысылайце грошы за падпіску.

Горка кажаш жывецца—не да сьмеху—але ўцямі сабе: калі косьць стане ў горле, яна праз сьмех можа выскачыць; — таму чытай „Асву“ — пішы сам да яе, прысылай карыкатуру, вершы, жарты (калі сьмеху варты).

## Распашырайце „Асву“.

Рэдактар - выдавец: П. РАДЗІК.

Druk. Sp. Wytw. Handlowa, Trocka 7.